# Мастоўскі веснік

Не народ для ўлады,
а ўлада для народа.

Незалежнае выданне | №12(56) | 20 чэрвеня 2000 года


# АБАРАНЯЦЬ ІНТАРЭСЫ РАБОЧЫХ НЕ БУДУ

АБСТРУКЦЫЯ старшыні прафкама ААТ " Мастоўдрэў"

**Мікалая Раінчыка**

чытайце на трэцяй старонцы

## Арыштаваны начальнік Мастоўскага АБЭЗ

**У сярэдзіне чэрвеня супрацоўнікі Камітэта Дзяржаўнай Бяспекі па Гродзенскай вобласці арыштавалі начальніка Мастоўскага аддзела па барацьбе з эканамічнай злачынасцю Аляксандра Хадаска.**

Затрыманне адбылося ў будынку райаадзела ўнутранных спраў. Раніцай, на пачатку дзесятай гадзіны, калі супрацоўнікі аддзела сабраліся ў актавай зале на заняткі, двое мужчынаў у цывільным у імгненне вока перасяклі двор перад міліцыяй, пераскочылі цераз уваходны бар"ер. Дзяжурны нарад не паспеў іх затрымаць і вымушаны быў аб"явіць "Напад на міліцыю". Неўзабаве з"явілася яшчэ сем супрацоўнікаў камітэта. Маёра Хадаска выклікалі з заняткаў і ў яго кабінеце быў праведзены вобыск.

**( працяг на стр.2)**

# ТУТЭЙШАЯ ХРОНІКА

## Райвыканкамаўскія фінансы спяваюць рамансы

На працягу некалькіх тыдняў пляц вакол будынка райвыканкама ператвараўся ў непрагляндную цемень. Асаблліва незадаволеныя гэтым былі рабочыя ААТ " Мастоўдрэў", якія вярталіся з другой змены дамоў ці ў гэты час ішлі на працу, бо значны кавалак дарогі даводзіася ісці ў цемрачы. А вінаваты ў тым былі энергетыкі, якія адключылі асвятленне плошчы Леніна за неўплату, якую павінен здзяйсняць райвыканкам. У бюджэце гэтае дзяржаўнае ўстановы, што дбае інтарэсы народа на асвятленне не хапае грошай, але за тое там ёсць сродкі, каб будаваць палацы старшыні райвыканкама Аляксандру Кісялёву ды намесніку старшыні райвыканкама Сяргею Штарнову.

**А. С.**

## Мяшаюць спаць ... днём.

Мастоўская міліцыя арыштавала падлетка К. і наклала на яго штраф за тое, што апошні ездзіў на мапедзе па вуліцы ... днём. Гэта не спадабалася пенсіянеру, і ён паскардзіўся ў органы аховы парадку. А там служыць рады.., справядліва ці не, абы пастрашыць. Тым болей падлеткаў, скардзіцца не будуць.

**А.С.**

## Новая экспазіцыя

У Гудзевіцкім літаратурна-краязнаўчым музеі адкрылася выстава "Спадчына". Экспанаты для яе прадставіў бронзавы прызёр першай беларускай філатэлістычнай выставы, якая прайшла ў Гомелі, жыхар Ваўкавыска Мікалай Бухаўцаў. Экспазіцыю складаюць канверты, маркі, картмаксімумы Беларусі, Польшчы, Літвы. У іх адлюстраваны асноўныя перыяды беларускай дзяржаўнасці ад Рогвалода да сучаснасці.

**Лявон Карповіч**

## Уцёк з месца здарэння.

У Мастах па вуліцы Станцыйная адбыўся наезд аўтамабіля на дзяўчынку. На шчасце, дзіця атрымала нязначныя пашкоджанні, але вадзіцель уцёк з месца здарэння і зараз яго шукае міліцыя. Дарэчы гэта не першае здарэнне, калі віноўнік наезду не аказвае дапамогі пацярпеламу. 29 чэрвеня ў судзе распачынаецца слуханне справы мастаўчаніна Ятчэні, які напрыканцы лютага, будучы ў нецвярозым стане зрабіў наезд на хлопцаў, што ехалі на веласіпедзе і сам з"ехаў з месца здарэння. Старэйшы падлетак праз некалькі дзён памер у лякарні, а яго родны брат на працягу некалькіх месяцаў быў прыкаваны да бальнічнага ложка.

**Антон МАКЕЙ**

Увага:

**прыклады дбайнага гаспадарання**

# Дэфіцыт паліва стварае начальства

Масты сталі бедныя на разумныя галавы, таму сюды запрашаюць кіраўнікоў з іншых месцаў. Тыя адразу ставяць умовы жылля ды пачынаюць будаваць раскошныя палацы. А пакуль ідзе будоўля, яны штодня ездзяць на працу з другіх населеных пунктаў ды паляць казённы бензін. Ужо пяты год ездзіць у Масты з вёскі Харціца старшыня Мастоўскага райвыканкама Аляксандр Кісялёў: дваццаць кіламетраў дарогі ў адзін бок.

Начальнік міліцыі Іван Здановіч пакуль жыве ў Скізелі і ездзіць толькі год, але дапамагае паліць казённы бензін яго жонка. Раённае райспажыўтаварыства штодня пасылае за ёй машыну. Ад Мастоў да Скідаля 30 км. Намеснік старшыні райвыканкама Сяргей Штарноў не забывае наведваць Верцялішкі Гродзенскага раёна, дзе пакуль жыве яго сем"я, туды усе 60 км дарогі. Генеральны дырэктар ААТ "Мастоўдрэў" Віктар Буры яшчэ ўсё мае сваю кватэру ў Лідзе, а як ні кінь 90 км у адзін бок. Акрамя гэтага, у раёне ёсць некалькі старшыняў калгасаў, якія жывуць за дзесяткі кіламетраў ад месца працы.

Адным словам, хвалявацца не трэба, у нас ёсць яшчэ рэзервы і магчымасці эканоміі паліва дзеля паспяховага правядзення ўборкі.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

## Каб выжыць: адны павінны прадаваць, другія красць

Даходы нашых людзей нізкія. Нізкія яны не толькі ў простых рабочых, але і ў кіраўнікоў ніжэйшага рангу. І ўсё гэта прымушае іх шукаць нейкага паратунку, каб утрымаць сям"ю.

У сувязі з нізкімі заробкамі рабочыя ААТ "Мастоўдрэў", каб мець хоць нейкі прыбытак, вымушаны прадаваць сваю новую спецвопратку нават за паўкошта. На яе знаходзяцца пакупнікі, якія гэтае адзенне збываюць у Польшчы. Не вяліккія заробкі і старшынь калгасаў на Мастоўшчыне. У большасці з іх аклад сягае у памерах 50-60 тысяч рублёў. Як зазначыў кіраўнік адной гаспадаркі, які прасіў не называць яго прозвішча, што "жыццё такое вымушае іншы раз і па-просту кажучы : красць".

**Янка КАЛУЖНЫ**

## Сякера — надзейны ключ

У вёсцы Мікелеўшчына невядомыя з дапамогаю сякеры адчынілі ўваходныя дзверы канторы мясцовага калгаса і затым патрапілі ў памяшканне сельсавета, які знаходзіцца ў адным будынку. Там ускрылі сейф і забралі некалькі дзесяткаў тысячаў рублёў. Сяльчане мяркуюць, што зрабілі тое прыезджыя, якія набывалі ў вёсцы бульбу.

**Антон МАКЕЙ**

## Заробак на выбар: або каўбаса або дыхта

У сувязі з затрымкай выплаты заработнай платы на ААТ "Мастоўдрэў" тут пашыраецца выплата аванса ў натуральнай форме, як у выглядзе прадуктаў харчавання,так і прадукцыі прадпрыемства. Ад пачатку бягучага года прадуктамі выплачана 55, 7 млн. руб. і прадукцыяй на 15 млн. рублёў.

**Ул. інф.**

## Малоць няма чаго і млын зламалі

Мастоўская знакамітасць часоў прэзідэнскіх "Дажынак" — млын на беразе Нёмана — перастала існаваць. Напачатку аматары дарэмных будматэрыялаў здабывалі сябе там дошкі, але некаторым грамадзянам, што іншы раз адпачываюць у парку ля стадыёна паказалася мала і яны ўвогуле сарвалі кола млына ды адкацілі далёка ўбок.

**Ул.інф.**

## Арыштаваны начальнік Мастоўскага АБЭЗ

(працяг.пачатак на стр.2)

Пад час вобыска згодна слоў аднаго з супрацоўнікаў міліцыі, які прасіў не называць яго прозвішча, былі знойдзены "мечаныя" даляры, што начальнік Мастоўскага АБЭЗ атрымаў іх у якасці хабару. Аляксандр Хадасок быў арыштаваны і змешчаны ў Гродзенскі следчы ізалятар. Каментаваць гэты факт ці казаць нейкія падрабязнасці кіраўнікі Мастоўскай міліцыі адмовіліся. Надалей справы разгортваліся наступным чына.

Праз тры дні затрыманага выпусцілі пад падпіску аб нявыездзе.За гэты час Аляксандр Хадасок быў звольнены з органаў унутранных спраў.

Дарэчы, у той жа дзень за атрыманне хабару быў затрыманы і супрацоўнік Іўеўскай міліцыі.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

**Каментар спецыяліста**:

--- Звычайна пасля затрымання пры дачы ці атрыманні хабару падазраваемага да суда на волю не выпускаюць, таму тут варта меркаваць, што Хадасок "мае плечы", як і некаторыя іншыя ўплывовыя асобы, атрымае "пасялуху" ды фармальна будзе лічыцца ў Грушаўцы,а сам працаваць на ААТ "Мастоўдрэў" на хлебнай пасадзе.

СТАРОНКА РЭДАКТАРА

## *Абструкцыя* Мікалая Раінчыка і К.

У апошні дзень травеня бягучага года ў рэдакцыю "МВ" завітала болей за дзесятка рабочых ААТ "Мастоўдрэў" з просьбаю дапамгчы атрымаць адпускныя. Справа ўся ў тым, што напачатку месяца некалькі цэхаў аб"яднання былі пастаўлены на бягучы рамонт, а рабочыя адпраўлены ў адпачынак (аб чым мы пісалі). Згодна з працоўным заканадаўствам адпускныя павінны быць выплачаны за тры дні да пачатку водпуску, а ў выпадку затрымкі рабочыя маюць права патрабаваць выплаты кампенсацыі. Я адразу звязаўся са старшынёй прафкама ААТ "Мастоўдрэў"Мікалаем Раінчыкам і запытаў, што на гэты конт запісана ў калектыўнай дамове. "Абаронца рабочых" падцвердзіў, што такое палажэнне ў калектыўнай дамове існуе, але яна ляжыць дзесьці далёка і адшукаць гэты дакумент ён адразу не можа. Мяне здзівіла стаўленне прафсаюзнага боса да асноўнага дакумента,згодна з якім арганізавана праца 4-х тысяч рабочых на прадпрыемстве; быццам гэта звычайная паперка, якую можна дзесьці пакласці і запамятаваць. Надалей, пад пільныя погляды наведвальнікаў, я запытаў,ці будзе старшыня прафкама ААТ дабівацца выплаты кампенсацыі за затрымку, на што шаноўны Мікалай Раінчык адказаў наступным чынам: "Да цябе звярнуліся,ты і дабівайся". Канешне, у сваім жыцці мне давялося пабачыць розных цынікаў, але каб такога гатунку нешта не прыпамінаецца. На маё сцвярджэнне, што я разумею вашыя словы, як адмову дапамагаць рабочым і надрукую аб гэтым у прэсе, прафсаюзны кіроўца грозна прарычаў: "Не займайся **абструкцыяй**". Адразу стала зразумела, што абаронца працоўнага люду, чалавек начытаны, культурны і любога рабацягу такімі іншаземнымі словамі загоніць у кут. Яму няма калі вывучаць Працоўны кодэкс і згодна з Калектыўнай дамовай абараняць інтарэсы сяброў прафсаюза, бо ўвесь працоўны час ён марнуе на вывучэнне незразумелых рабочым слоў. Я таксама не прывык адступаць ад сваіх прынцыпаў і паўтарыў запыт, а каб даказаць шаноўнаму прафсаюзнікаму, што не займаюся гэтай самай **абструкцыяй** дадаў, што наша гутарка запісваецца на дыктафон. Мой субяседнік на другім канцы дроту адразу сціх, хіба што распачалася тая самая **абструкцыя.** Чулася толькі сапенне. Запыт быў паўтораны яшчэ раз. Відаць паганая **абструкцыя** не дазваляла болей цярпець,і абанент паклаў трубку. Тое, што так званы абаронца рабочых, старшыня прафкама ААТ "Мастоўдрэў" Мікалай Раінчык сам займаецца **абструкцыяй,** відавочна. Відавочна хаця бы з таго выпадку, што адбыўся некалькі гадоў таму назад, калі яшчэ аб"яднаннем кіраваў Мікалай Сліж, а супроцьлеглая яму групоўка да якой належаў і Мікалай Раінчык,перад сходам акцыянераў паспрабавала зрабіць "наезд" свайго шэфа. Мікалай Нічыпаравіч, хоць і лічыўся прасцячком, але сітуацыяй на сваім прадпрыемстве валодаў дасканала. Каб нейтралізаваць аднаго са сваіх уплывовых канкурэнтаў, былы генеральны дырэктар на сходзе працоўных у адным з цэхаў сказаў адкрыта, што старшыня прафкама грошы рабочых, якія яны заплацілі за пасадку бульбы,паклаў на рахунак у банк і карыстаецца працэнтамі. Мы не бярэмся сцвярджаць, што тое праўда ці нагавор, яно зараз не істотнае, хоць было сказана ў прысутнасці не адной сотні рабочых, але падзейнічала, бо ў страшыні прафкама тады таксама назіраласяа**бструкцыя**. Яго імпэнт змагара ўпаў, а праз два тыдні рабочым пачалі выплачваць нейкія рэшты, якія засталіся пасля уплаты за пасадку і апрацоўку бульбы. Надалей па гэтай справе я звязаўся са старшынёй райвыканкама Аляксандрам Кісялёвым, бо ён выступае гарантам Пагаднення паміж Мастоўскім райвыканкамам, аб"яднаннем наймальнікаў і раённым Саветам па каардынацыі дзейнасці першасных прафсаюзных арганізацый. Кіраўнік раёна сваім запытам таксама паставіў мяне ў кут:"А чаму рабочыя звярнуліся да цябе?" Давялося паспешна шукаць выйсця. Пасля адказу: "Відаць, людзі вас не лічаць дастатковым аўтарытэтам", некаторы час соп, а потым сказаў сваё важкае слова:"Няхай пішуць заяву, будзем разбірацца".

Толькі самае дзіўнае ў гэтай сітуацыі, што людзі не сталі ісці ў свой прафкам, на бязбеднае ды бездзейснае існаванне якога штомесяц адлічваюць са сваёй мізэрнай зарплаты нейкі працэнт; не сталі пісаць заявы старшыні райвыканкам, бо разумелі, што безнадзейная справы. І не сталі яны звяртацца ў суд, хоць гэта прадугледжана законам.

Не прывык рабочы чалавек адстойваць свае правы, хоць ужо не спадзяваецца на добрага дзядзьку.

## Планы не выконваюцца, надзеі не спраўдзіліся

Не спраўдзіліся надзеі Мастоўскага райаграпрамхарчу на павышэнне надояў малака з пачаткам пашавага ўтрымання жывёлы. Гэты паказчык складае зараз 91% ад мінулагодняга, дакладней на 25 кг меней. Дый сама лічба надояў смешная: 306 кг ад кожнай каровы. Толькі чатыры гаспадаркі раёна: калгасы "40 гадоў Кастрычніка", "Світанне", "Дубна", "Дружба" мелі за гэты перыяд незначнае павялічэнне надояў.

**Ул. інф.**

### *Да увагі чытачоў*

**Рэдакцыя "МВ" просіць выбачэння за затрымку выхада чарговых нумароў, хоць здарылася тое выключна па тэхнічных прычынах не залежачых ад рэдакцыі. Паколькі чарговыя нумары былі падрыхтаваны, а тыя навіны, што можна пачытаць на старонках нашага выдання не змяшчае афіцыйны друк, было вырашана надрукаваць гэтыя нумары хоць з некаторым спазненнем.**

**У хуткім часе чытач іх атрымае.**

ХТО ЁСЦЬ ХТО

# Жыццё за вялікім плотам

**На палітычным алімпе фігура Аляксандра Лукашэнка з”явілася досыць даўно. Шэсць гадоў ужо, як ён павёў краіну сваім своеасаблівым курсам да “рынкавага сацыялізма”. Але чым болей прэзідэнт правіць, тым узрастае інтарэс да яго чалавечай персоны. Між тым, пра жыццё Біла Клінтана ці новага расійскага фаварыта Уладзіміра Пуціна вядома намнога болей, чым пра Аляксандра Рыгоравіча. Мы палічылі гэта няправільным і на аснове з размоў са знаёмымі сталічнымі журналістамі, палітыкамі,публікацыямі “Свободных новостей”, “Белорусской деловой газеты” і іншых выданняў распавесці пра жыццё Лукашэнкі і ягонай сям”і. Магчыма нейкія звесткі не поўнасцю адпавядаюць рэальнасці, але ж не мы вінаватыя, што многае ў Беларусі пакрыта арэолам сакрэтнасці.**

*Забыты родны кут*

Ужо заўважана, што на сваёй малой Радзіме ў вёсцы Александрыя, што ў Шклоўскім раёне, кіраўнік дзяржавы зяўляецца вельмі рэдка. Зрэшты цяпер вёскай паселішча можна назваць толькі ўмоўна. Ідэальныя дарогі, прывабныя катэджы, сучасная школа, еўрарамонт у магазіне з амаль гарадскім асартыментам прадуктаў і тавараў— гэта больш нагадвае пасёлак гарадскога тыпу. Засялялі Александрыю ў перыяд калектывізацыі, калі сюды прыехаў дзед Лукашэнкі з сям”ёй. Пасля вайны маці будучага прэзідэнта, як і астатняя моладзь, у пошуках лепшай долі дала дзёру з калгаса ў бліжэйшы горад Оршу.

Дабротны аднаэтажны цагляны домік, дзе да нядаўняга пераезда да сына жыла маці Лукашэнкі, размаляваны ружовай фарбай.Вакол будынку круглыя суткі дзяжурыць міліцэйская машына. Міліцыянты растлумачылі карэспандэнту, што сустрэцца з жанчынай магчыма толькі пры наяўнасці дазволу Савета бяспекі.Такога дазволу за пяць гадоў прэзідэнства Аляксандра Рыгоравіча ніхто не атрымліваў.Фота і відэаздымкі вакол радавога гнязда беларускага лідэра таксама забаронены. Хто паспрабуе зрабіць гэта цішком,мае шанец апынуцца ў пастарунку, будзе засвечана плёнка або адобрана касета.

Калі летась сюды наведаліся журналісты “БДГ”, мама саноўнай асобы з цікавасцю сачыла,як да яе не дапускалі прэсу, седзячы на лаўцы ў адзіночку. Знешне яна вельмі падобная на сына. Ужо многія калегі пераканаліся,што ў апошнія гады нельга разгаварыць суседзей, мясцовых жыхароў. Людзі цвёрда засвоілі атрыманы інструктаж і шарахаюцца ад карэспандэнтаў з дыктафонамі. У іншым выпадку пра хлопчыка Сашку успамінаюць выключна ў станоўчых характарыстыках: як ён старанна вучыўся і не біў баклушы ў школе. І як імкнуўся дапамагчы на ферме і па доме матулі, любіў працаваць і не рос хуліганам... Мой дапытлівы знаёмы бачыў тут раней іншую хатку, у якой налічваліся толькі тры акны.

*Апусцелы сямейны дом.*

Не менш вядома і вёска Рыжкавічы.Вакол дома, у якім жыве Галіна Радзівонаўна, таксама высокі цагляны плот.За ім бачны цёмныя таніраванага шкла вокны тыповага доміка. Толькі незвычайна,што хата ў метрах 150 ад жывёлагадоўчай фермы, дзе вядома,якія пахі. Жонку прэзідэнта днём і ноччу ахоўваюць міліцыянты, для якіх( каб не сумавалі) на вуліцу вывелі радыёкропку. Сяброўства маладых людзей, парасошае ў каханне, пачалося з вечара ў школе,дзе яны былі Дзедам Марозам і Снягурачкай.Было гэта вельмі даўно.

“Во-первых, я не хочу говорить на эту тему. Во-вторых,последнее время я вообще не общаюсь с журналистами: с ними поговоришь, душу откроешь, а они потом напишут неправду. Поэтому вы уж меня извините, но отвечать на ваши вопросы я не буду”,—сказала супрацоўніца раённага прадстаўніцтва па аздараўленню насельніцтва. Пасля кпінаў у прэсе жонка прэзідэнта не мае каровы Мілкі,не працуе ў дзіцячым садку.На працу ходзіць пешшу 3 км. У яе словах, аддаючых стомленасцю,звярніце ўвагу на прыярытэт выразаў.

**( працяг будзе)**

## Мастаўчане жартуюць

—Калі дабрабыт беларускага народа паднімецца вышэй калена?
—Аб гэтым будзе сказана ў чарговым дэкрэце прэзідэнта.

—Што такое вобла?
—Гэта кіт, які пражыў на Беларусі тры гады.

—Скажыце, гэта ўжо рынкавы сацыялізм ці будзе яшчэ горай?

—Хто па нацыянальнасці Адам і Ева?
— Вядома, беларусы! Толькі яны могуць бегаць босымі і голымі, не мець даху над галавою, есці адзін яблык на дваіх і пры гэтым крычаць, што яны ў раі!

Пры раскопах астанкаў аднаго з асабнякоў у Драздах археолагі адшукалі невядомую главу Бібліі: “Канец света можа наступіць у адной, асобна ўзятай краіне”.

— Ці будзе КДБ пры рынкавым сацыялізме?
— Не! Тады людзі навучацца самаарыштоўвацца.

Заснавальнік і рэдактар Язэп Палубятка

Адрас для дапісаў: 231600 г. Масты-2 Палубятку І. І. да запатрабавання, тэл. 2-16-90

Аўтары цалкам адказныя за праўдзівасць і дакладнасць дасланай інфармацыі

Наклад 299 асобнікаў. Фармат А-4

Дабрачынна надрукавана Гарадзенскім абласным аб'яднаннем «Ратуша» пры падтрымцы фонда «Альянс Каунтэрпарт», Камісіі па Дэмакратыі Амбасады ЗША на Беларусі іНацыянальнага Фонду на карысць дэмакратыі (ЗША).